Наша свабода

№17(104) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

12 ЛЮТАГА 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




# Срэбная прыступка беларускага біятлону

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

**Усё ж такі эстафета – каронны беларускі від праграмы на біятлонных спаборніцтвах. Яшчэ раз гэта знайшло пацвярджанне на Чэмпіянаце свету па біятлоне ў славенскай Паклюцы, дзе ўчора прайшла заключная гонка – мужчынская эстафета.**

Беларуская каманда — чэмпіён свету ў эстафеце 1999 года. Да гэтага два гады запар беларусы выйгравалі на чэмпіянатах сышоўшую ў нябыт гонку патрулёў. І ў гэты раз ад беларусаў, якія ў індывідуальных стартах, акрамя лідэра каманды Вадзіма Сашурына, сябе не праявілялі (месцы ў 3-ім дзесятку), чакалі сюрпрызаў.

Першым ад беларусаў пайшоў на трасу Аляксей Айдараў. Яго чакала барацьба ў першую чаргу з грандамі з каманд Германіі, Расіі, Нарвегіі і Францыі. Але фартуна ў гэты раз адразу адвярнулася ад немцаў. Іх прадстаўнік на першым этапе паслізнуўся і выбіхнуў нагу, у выніку адстаў ад усіх і прыехаў на фініш з такім адставаннем, што астатнія нямецкія біятланісты так і не здолелі выправіць становішча.

У барацьбу асаў з першага этапа ўключыліся дзве каманды-сюрпрызы: Беларусь і Латвія. Айдараў не так хутка бег, але бездакорна страляў, у выніку перадаўшы эстафету маладому Аляксандру Сыману першым! За беларусамі шчыльна ішлі латышы і нарвежцы. Сыману ставілася толькі адна задача – не прайграць шмат, і ён яе перавыканаў, не толькі не вылецеў з групы лідэраў, але і прыбыў на фініш у першай тройцы. Алег Рыжанкоў таксама амаль беспамылкова адстраляў і добра адпрацаваў нагамі. А вось склад групы лідэраў змяніўся. Замест стомленых латышоў на трэцяе месца ўзняліся французы, у якіх на апошнім этапе мусіў бегчы лепшы біятланіст гэтага года Рафаэль Пуарэ. Увогуле склад першай чацвёркі апошняга этапа быў суперзорны. З мінімальным адставаннем адзін ад аднаго стартавалі: Рафаэль Пуарэ, Оле-Эйнард Б'ёрндален, Вадзім Сашурын і двухразовы чэмпіён свету ўжо гэтага года расіянін Павел Растоўцаў. Было зразумела, што на лыжні Вадзім грандам саступіць: заставалася добра страляць. Што ён паспяхова і зрабіў. Аднак не з такім кулямётным тэмпам, як маланка-Пуарэ. Француз сышоў з сёмага агнявога рубяжа першым і больш ужо нікому сваё бясспрэчнае лідэрства саступаць не збіраўся. Барацьба разгаралася за іншыя медалі...

На сёмым стрэльбішчы Б'ёрндален па мянушцы «электрычка» не пацэліў пяць разоў з васьмі стрэлаў, але тым не менш праз 2,5 кіламетры, адматаўшы штрафныя кругі, даганяў Сашурына, які ішоў другім. Растоўцаў яўна вычарпаў запас шанцавання і пакрысе пачаў адставаць. Апошнія стрэлы лёгка даліся Пуарэ, і той паехаў за золатам. Усе сталі сачыць за тым, як адстраляюцца Сашурын і нарвежац. Беларус пайшоў з стрэльбішча першым з выйгрышам у нарвежца ў 26 секундаў. Праз кіламетр (да фінішу было яшчэ кіламетр трыста метраў) адставанне скарацілася да 10 секундаў, і, здавалася, што срэбра сплывае на вачах. А тут яшчэ непадалёк паказаўся Растоўцаў, і ўвогуле замаячыла безмедальная перспектыва.

За 300 метраў да фінішу Б'ёрндален быў ужо за спіной Сашурына. Хацелася заплюшчыць вочы. Але, відаць, не мог Сашурын падвесці хлопцаў па камандзе – не прапусціў саперніка! 0,6 секунды выйгрышу на фінішы, ускінутыя рукі і падзенне з ледзь не стратай прытомнасці ад напругі... Усё! Перамога. Няхай не золата, але перамога над скептыкамі, якія не верылі, што наша каманда праявіць сябе. ■


Фота AP

## Тры гады ў зняволенні

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

11 лютага споўнілася 3 гады са дня арышту дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання, вядомага прадпрымальніка Андрэя Клімава. Ён быў прыгавораны судом Ленінскага раёна Мінска да 6 гадоў пазбаўлення волі за нібыта крадзяжы ў асабліва буйных памерах і службовае махлярства пры будаўніцтве дома на вуліцы Лодачнай у Мінску. Хаця падчас суда Клімаў і яго абарона прывялі мноства аргументаў на карысць таго, што пры будаўніцтве дзяржаве не было нанесена стратаў.

У судзе Клімаў і адвакаты звярталі ўвагу на палітычную падаплёку справы: Клімаў, з'яўляючыся дэпутатам Вярхоўнага Савета, выступаў за імпічмент прэзідэнта Лукашэнкі. Зараз А.Клімаў і яго адвакаты падалі старшыні Мінскага гарадскога суда скаргу, у якой выкладзеныя абгрунтаванні неабходнасці новага разгляду гэтай крымінальнай справы.

БелаПАН

# Посла возвращают домой

## Новый президент меняет кадры своего предшественника

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

**В наступившем году началась ротация глав дипломатических миссий Союзной Республики Югославия. Практически все послы в европейских странах, назначенные в свое время бывшим президентом СРЮ Слободаном Милошевичем, отзываются на родину новым главой союзного государства Воиславом Коштуницей. Этот процесс затронул и Республику Беларусь, руководство которой пыталось демонстрировать особо братское отношение к отвергнутому сербским народом Слобо. Помнится, А.Лукашенко ему обещал всесторонною помощь. В том числе и военную. Но в Белграде наступили перемены.**

Чрезвычайный и Полномочный посол союзной Югославии Милорад Радевич вручил верительные грамоты Александру Лукашенко 3 октября прошлого года. Неделю спустя после первого тура президентских выборов, которые принесли победу объединенной демократической оппозиции. Как известно, результаты голосования С.Милошевич пытался оспорить, настаивая на проведении второго тура выборной кампании. Свою уверенность в победе он демонстрировал и тем, что продолжал назначать своих послов в страны мира. В группу таких кадров попал и господин М.Милорадович, который умудрился на следующий день после встречи с А.Лукашенко провести пресс-конференцию, на которой клеймил сербскую оппозицию вместе с ее лидером Воиславом Коштуницей.

Тогда осенью многих удивила не только полнейшая неосведомленность сербского дипломата о происходивших процессах в собственной стране, но и практическая никчемность посольства Республики Беларусь в Белграде, глава которого просто был обязан держать руку «на пульсе» происходивших событий и информировать свое руководство. Некоторые мастера аппаратных интриг при дворе попытались тогда воспользоваться случаем и возбудить главу государства в отношении личности посла. Как известно, послом Республики Беларусь в СРЮ уже не первый год работает Валерий Брилев – зять бесславно уволенного экс-министра иностранных дел Ивана Антоновича. Мол, надо бы заменить посла на более компетентного кадра. Конечно, та спешка, с которой всезнающий правитель Беларуси принял верительные грамоты от посла С.Милошевича, который уже числился в «нежильцах», может свидетельствовать о том, что правду о происходивших в сентябре-октябре 2000 года событиях в Белграде сказать ему было некому. Впрочем, хаотическое, неуверенное поведение демонстрировала и Москва, успевшая буквально в последнюю минуту «врубиться» в сербскую ситуацию. Так что, похоже, пресловутые аналитики из Ясенево, других российских структур также не могли помочь своими «мозгами» союзникам из Минска. ▶

*Окончание на стр.3*

## НАВІНЫ

■ **Інспекцыя Дзяржаўнага падатковага камітэта пачала апісваць маёмасць гомельскага прадпрыемства «Стромаўталінія» ў якасці заходу па пагашэнні 32-мільённай запазычанасці ў бюджэт.** На заводзе, які вырабляе шыфер, керамічную плітку і цэглу, працуюць 160 чалавек. Былі апісаны «КаМАЗ», ацэнены ў 5 мільёнаў рублёў.

■ **На мінулым тыдні ў Жлобіне супрацоўнікамі аддзела эканамічнай злачыннасці падчас хабарніцтва затрыманы чыноўнік Гомельскага аблвыканкама.** Хабарнік быў змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання. Памер хабару – 50 долараў. Гэтыя грошы былі ўзнагародай за вызваленне ад штрафу мясцовай прадпрыемальніцы.

■ **Сталічныя органы ЗАГСа падвялі статыстычныя вынікі працы за 2000 год.** Летась па Мінску зарэгістравана 15.782 фактаў нараджэнаў, 16.245 смерцяў, 12.185 шлюбаў, з якіх 1.009 — з іншаземцамі. Разам з тым ЗАГСамі афармлена 1.070 разводаў, а ўсяго на развод было пададзена каля 8 тысячаў заявак.

■ **Паводле інфармацыі міністэрства кіравання дзяржаўнай маёмасцю, сёлета ў Беларусі плануецца прыватызаваць 400 аб'ектаў.** Усяго зараз у той ці іншай ступені рэфармавана толькі чвэрць прадпрыемстваў, дзе гэта меркавалася зрабіць. Прычым не дужа эфектыўна: рэнтабельнасць акцыянерных таварыстваў – 13,3%, дзяржаўных прадпрыемстваў – 12,8%.

■ **Сёння а 17-ай гадзіне ў памяшканні Управы БНФ па Варвашэні, 8 у Мінску адбудзецца канферэнцыя з удзелам святароў і вернікаў, прычым самых розных канфесіяў «Пра любоў».** Будуць наладжаны абмеркаванні наступных пытанняў – «Любоў чалавечая і любоў Божая», «Любоў да Радзімы і любоў да блізкага», «Каханне паміж мужчынамі і жанчынамі».

■ **Будынак сінагогі пачатку мінулага стагоддзя ў Маладзечне будзе перададзены вернікам-іудзеям.** Такое рашэнне дасягнутае паміж імі і гарадскімі ўладамі. Зараз там размяшчаецца разнастайная дзяржаўныя ўстановы, а іудзейская абшчына арандуе пакуль што пад маліто́ўны дом прыватнае жыллё.

■ **У Нацыянальным мастацкім музеі з'явіліся новыя экспанаты.** Гэта пяць твораў сучаснага кітайскага жывапісу і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, якія перададзены музею ў якасці падарунка ад амбасады КНР. Яны папоўняць экспазіцыю «Мастацтва Усходу».

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.yahoo.com

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 1220

# Посла возвращают домой

*Окончание, начало на стр.1*

Игра по смещению ненавистного Западу Слободана Милошевича была проиграна славянскими интеграторами вчистую.

Реакция из Минска большого друга ушедшего С.Милошевича была в общем-то предсказуема и как всегда оригинальна. После официального поздравления в адрес В.Коштуницы по случаю его победы на президентских выборах А.Лукашенко сделал ряд заявлений, которые в Белграде, других столицах приняли к сведению. В частности, он заявлял, что не допустит появления в Беларуси «второго Коштуницы». Фамилия нового президента Югославии, выходит, стала нарицательной, этаким символом антилукашенковской оппозиции. Как после этого строить двусторонние отношения, сказать не просто.

Любопытно по этому поводу одно высказывание, которое приписывают видному думскому деятелю Дмитрию Рогозину. По мнению председателя комитета по международным делам Госдумы, из происшедших событий в Югославии россияне вынуждены были извлечь для себя соответствующие уроки. В том числе в отношении союзного белорусского режима и его оппозиции. Отныне российские политики будут контактировать со всеми сторонами.

А что касается югославских уроков для нынешнего руководства Беларуси, то пока они проявляются лишь в паническом страхе. Оно еще больше стало ощущать свою одиозность в Европе, географическим центром которой собственно является. Югославский посол М.Радевич отбывает 15 февраля из Минска домой. Об этом Белград уже официально известил МИД Беларуси. Исполнять обязанности главы дипломатической миссии СРЮ будет дипломат Слободан Ярчевич. Официальные СМИ Беларуси пока стараются всячески избежать темы отзыва посла. Его последние встречи с палаточными спикерами были преподнесены пропагандой как поздравления официального Белграда по случаю прошедших парламентских выборов, которые Европа не признала. На самом деле, обреченный, вслед за большой группой других послов С. Милошевича в России и других странах к отставке югославский посол М. Радевич просто прощался.

Но есть и еще одно соображение, связанное с заменой посла СРЮ в Беларуси. Может так получиться, что порою непредсказуемый А. Лукашенко решит принять одновременно верительные грамоты у нового югославского посла и уже текущий месяц ожидающего этого волнительного момента американского посла Майкла Козака. Надо полагать, ведущие политруки режима назовут тогда такой акт своего хозяина как своеобразную демонстрацию мощи славянского единства в противовес однополярному миру. ■

## Правал «круглага стала»

Рыгор БУЯН

Амбіцыйныя мэты, пастаўленыя перад круглым сталом «Прэзідэнцкія выбары-2001», сталіся недасяжальнымі для арганізатараў форуму – Вярхоўнага Савета 13 склікання і КРДС. Многія запрошаныя да дыскусіі палітыкі, якія маюць самае непасрэднае дачыненне да прэзідэнцкіх выбараў (старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык і экс-міністр абароны Павел Казлоўскі, першы сакратар ЦК ПКБ Сяргей Калякін, лідэр ЛДП Сяргей Гайдукевіч), наогул праігнаравалі мерапрыемства. Больш за тое, ніводзін з 10 заяўленых замежных дыпламатаў (кіраўнік КНГ АБСЕ Ханс-Георг Вік, паслы Францыі, Германіі, ЗША) на «круглым стале» не з'явіўся.

У поўным складзе былі прадстаўленыя толькі АГП і БНФ. З 60 запрошаных палітыкаў і дыпламатаў на «круглы стол» ці прыйшла палова, так што сур'ёзнай гаворкі адбыцца і не магло. Тыя, хто сабраўся, пагаварылі пра хібы Выбарчага кодэкса ды пра неабходнасць і цяжкасці назірання за выбарамі. Але ўсё гэта даўно вядомыя рэчы, што былі актуальныя яшчэ напачатку таго года. Арганізатары не змаглі прапанаваць ні новых ідэяў, ні рашучых дзеянняў. ■

# На зависть всей Европе

Максим ГЛИКИН

**Пока Павел Бородин томится в бруклинском застенке, главное дело его жизни — обновленный Кремль — притягивает к себе толпы туристов. Билет стоит 500 рублей (почти 20 долларов).**

Заняться ремонтом Кремля Борис Ельцин решил в конце 1993 года — сразу после обстрела парламента и принятия новой Конституции. Художественную концепцию предстоящих работ, по свидетельству Бородина, Борис Николаевич сформулировал так: «Чтобы было державно».

Бородин собрал команду художников и архитекторов и отправился по самым знаменитым дворцам-музеям России и зарубежья — перенимать опыт. «Я все смотрел — и Версаль, и Фонтенбло, и Букингемский дворец, — вспоминал Пал Палыч. — Но ничто мне не нравилось, а после осмотра папского дворца в Ватикане я так прямо сказал: «Чистенько, но бедненько».

Если заказчик сказал, чтобы было «державно» и «не бедненько», значит так и будет. О роскоши отремонтированных покоев 1-го корпуса (Сенат) можно судить по расходам на закупку мебели: сумма одного из контрактов (его обнаружили швейцарские сыщики) достигла 90 миллионов долларов.

Ремонт двух корпусов был лишь разминкой перед главной работой — реконструкцией Большого Кремлевского дворца. Восстанавливать дворец решили в строгом соответствии с оригиналом — точно так, как его задумал и отстроил в 1839 году Константин Тон.

Для начала решили реконструировать два зала, которые больше всего пострадали при большевиках, — Андреевский, он же Тронный, и Александровский. (В 1934 году эти помещения были переоборудованы в зал заседаний Верховного Совета.) Любое отклонение от подлинника считалось браком и комиссией отвергалось. Только на позолоту тут ушло 50 килограммов золота.

— Мы забраковали первые образцы штофа с муаром, которые сделали итальянцы, — рассказывает Татьяна Каменева. — Не устроили нас и итальянские люстры, выполненные для Андреевского зала. Но нам сказали: раз кредит взяли в Европе, там и должны размещать заказы.

Паркет для БКД тоже делали на родине Микеланджело. При этом выполняли его в строгом соответствии с чертежами XIX века, ни на йоту не отступив от рисунка царских времен. С помощью специалистов по древесине определили, что для полной идентичности необходимо 23 породы дерева. Их свозили со всего света, в том числе и из Африки. Окна для БКД изготавливали в Германии, колокола для башенных часов отливали в Голландии — в Королевской колокололитейной компании.

Кое-что приходилось переделывать, и не по одному разу. Долго, например, не получались двуглавые орлы, закрепленные на фасаде взамен морально устаревшей надписи «СССР». Мастера, отлившие орлов из меди, предлагали сохранить естественный цвет металла. Когда повесили первого орла, комиссия отправилась на противоположный берег Москвы-реки — взглянуть, как это смотрится издалека. Орел с этого расстояния был похож на черного паука, сползающего с крыши. Мастерам приказали перекрасить державных птиц в цвет «дикого камня».

В отличие от ремонта первых двух корпусов, реставрация БКД сопровождалась умеренной рекламной кампанией. О ней снят видеофильм, изданы книга и несколько альбомов. Единственное, что оставлено в тайне — сколько стоило все это удовольствие. Правда, сметная стоимость реконструкции БКД названа: 335 миллионов долларов. Но выясняется, что это лишь «стартовая» цена проекта, а в реальности БКД обошелся казне гораздо дороже. О том, как начиналось финансирование кремлевской реконструкции, рассказал один из бывших руководителей минэкономики:

— Приходит Пал Палыч и говорит: «Мне нужно в общей сложности 10 триллионов рублей» (тогда — около 2 млрд. долларов. - **М.Г.**). Я говорю: «Пал Палыч, вы понимаете, что если я вставлю эти цифры в бюджет, а у нас вся инвестиционная программа составляет 5 триллионов, то никакая Дума это не пропустит, будет скандал». — «Ну тогда дай мне пять миллионов тонн нефти». Я согласился — куда денешься!

Конвертировать нефтяные квоты в доллары было поручено доверенному спецэкспортеру «МЭС» — фирме, учрежденной подмосковным конезаводом и Московской патриархией. По оценкам экспертов, «МЭС» перекачала за бугор даже не пять, а восемь миллионов тонн нефтепродуктов. О размере полученной ею выручки история умалчивает, известно лишь, что Бородин на «МЭС» обиделся, посчитав, что она не доплатила ему 45 миллионов долларов.

Нефтяной схемой финансирования Пал Палыч не удовлетворился, и перед началом работ в БКД управление делами президента выпустило векселя на 492 млн. долларов, гарантированные Внешторгбанком. Фирма Виктора Столповских «Мерката Трейдинг» взялась обналичить векселя в Европе. По мнению швейцарских следователей, г-н Столповских с задачей справился: ему удалось выручить как минимум 450 миллионов.

Выходит, что по двум схемам — вексельной и нефтяной — Пал Палыч получил сумму, превышающую сметную стоимость проекта. И все равно денег не хватило не только для продолжения реконструкции, но и для расчета за выполненные работы. ■

*Печатается в сокращении.*

www.og.ru

**Ад рэдакцыі:** Хоць рэканструкцыя Крамля – тэматыка расійская, мы вырашылі, што даныя артыкул варты ўвагі нашага чытача.

Павел Барадзін ёсць, як сцвярджаў Аляксандр Лукашэнка, беларуска-расійскім чыноўнікам. І пры ягоных здольнасцях можна не сумнявацца, што свой «крэмль» ён адшукаў бы і ў Беларусі. І разлічвацца за яго тады даваўся б беларусам. Як расійскія грамадзяне не атрымоўвалі па поўгада заробкаў, паміралі ад голаду ў войску ці мерзлі ў кватэрах, а ім хлусілі ў вочы пра крызісы і жаліліся, што Захад пазычае мала грошай.





ПРАФСАЮЗЫ

## Неаб'яўленая вайна

Рыгор БУЯН

9 лютага прэзідыум Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай прыняў такі рашэнне праводзіць акцыю 14 лютага «Заробкі – на ўзровень цэнаў» на плошчы Бангалор – менавіта туды прафсаюзы паслаў Мінгарвыканкам.

Варта нагадаць, што яшчэ 12 студзеня лідэры 26 з 34 галіновых прафсаюзаў ФПБ накіравалі ў гарвыканкам заяўку на акцыю 14 лютага. Арганізатары адразу заявілі, а пасля неадназова прадублявалі свой намер ні ў якім выпадку не ісці на «месца выгулу сабак» – плошчу Бангалор. У якасці альтэрнатыўнага месца правядзення акцыі былі ўказаныя пяць іншых сталічных пляцовак: плошча Свабоды, Кастрычніцкая, Парыжскай камуны, Юбілейная плошча ці пляц каля стадыёна «Трактар». Аднак 7 лютага мінская «вертыкаль», адкінуўшы ўсе варыянты, «паслала» прафсаюзы менавіта на Бангалор. Як лічаць у ФПБ, з тым разлікам, каб арганізатары пайшлі на парушэнне заканадаўства, правёўшы акцыю па ўласным сцэнары, што дало б уладам падставу апраўдаць любыя рэпрэсіі супраць Федэрацыі, у тым ліку і магчымую ліквідацыю прафсаюзнага аб'яднання праз суд.

Прэзідыум ФПБ выбраў меншае з зол – павесці людзей на Бангалор. Мітынг пройдзе з 16.30 да 19.00 пад агульным лозунгам «Заробкі – на ўзровень цэнаў», які, па задуме арганізатараў, можа сабраць да 30 тысячаў чалавек.

Падрыхтоўка акцыі праходзіла ў надзвычайных умовах, вельмі падобных да неаб'яўленай вайны супраць прафсаюзаў. Пад ціскам уладаў адмовіліся ад удзелу ў акцыі прафсаюз медыкаў, прафкам Мінскага маторнага завода, прафсаюз авіяцыйных работнікаў. І ўсё гэта – на фоне нагнятаемай уладамі антыпрафсаюзнай істэрыі. Прэзідыум ФПБ мусіў абараняцца, заяўляючы, што «адмятае ўсе домыслы з нагоды якога-небудзь «ціску», ажыццяўляемых нібыта кіраўніцтвам ФПБ на галіновыя прафсаюзы». «Улады яўна ставяць за мэту не толькі сарваць акцыю пратэсту, але і раскалоць Федэрацыю, супрацьпаставіць, падзяліць прафсаюзы на «харошыя» і дрэнныя», — заявіў 9 лютага прэзідыум ФПБ.

Днём раней з жорсткай заявай выступіў найбольш радыкальны ў складзе ФПБ прафсаюз работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання (АСМ).



Фота Ул.Шпарака

Называючы рашэнне Мінгарвыканкама чарговым парушэннем канвенцыяў МАП, кіраўніцтва АСМ заявіла, што «чарговы плявок улады ў твар людзей працы не павінен прайсці бясПакарана». АСМ прапануе выказаць недавер кіраўніцтву мінскай «вертыкалі», а Савету ФПБ прапанавана звярнуцца ў Канстытуцыйны суд з нагоды неканстытуцыйнага рашэння Мінгарвыканкама. АСМ настойвае на пачатку падрыхтоўкі да агульнарэспубліканскага страйку з патрабаваннямі давесці тарыфную стаўку першага разраду да ўзроўню пражытачнага мінімуму і падпісання Генеральнага пагаднення на 2001-2003 гады ў рэдакцыі Федэрацыі.

Відавочна, што прафсаюзы аказаліся ў нявыкрутцы. Рашэнне ісці на Бангалор – «вымушаная мера», як сцвярджае старшыня АСМ Аляксандр Бухвостаў. «Нам заставалася альбо весці людзей да адміністрацыі прэзідэнта, альбо ісці на Бангалор. Мы вырашылі пайсці такім шляхам», — падсумаваў прафсаюзны лідэр. ■

ВІЗІТЫ

## Цікаўнасць да Беларусі

Рыгор БУЯН

З набліжэннем прэзідэнцкіх выбараў цікавасць Еўропы да Беларусі павялічваецца з кожным днём. 14-15 лютага ў Вене пастаянны камітэт АБСЕ мяркуе разгледзець «беларускае пытанне» на ўрадавым узроўні. Напярэдадні гэтай падзеі ў Мінску пабывалі дэлегацыі Еўрапейскага Саюза і Еўракамісіі. Іхняя мэта – вывучыць умовы, у якіх будуць праходзіць прэзідэнцкія выбары на Беларусі.

Еўрапейцы ў Мінску сустракаліся як з прадстаўнікамі афіцыйнае ўлады (прэзідэнцкая адміністрацыя, МЗС), так і з палітычнай апазіцыяй. Відавочна, што ў Еўропе турбуюцца наконт умоваў правядзення прэзідэнцкай кампаніі; улады даводзілі пра дэмакратызацыю выбарчага заканадаўства, пра паляпшэнне палітычнага клімату ў краіне, дзеля чаго было скарыстана вызваленне дэпутата Вярхоўнага Савета 13 склікання Уладзіміра Кудзінава. Чарговы раз улады сыпалі абяцанкамі правесці дэмакратычныя выбары – у якасці першага кроку называлася дамоўленасць пра аднаўленне перамоваў паміж уладамі і апазіцыяй, якая адбылася на сустрэчы Х.-Г.Віка з міністрам замежных справаў Міхаілам Хвастовым. Нягледзячы на тое, што гэтая дамоўленасць – не канчатковая, урадавы бок казырнуў гэтым перад еўрапейцамі.

Апазіцыя, са свайго боку, давodзіла адсутнасць істотных падзвіжак у палітычным клімаце ў параўнанні з леташнімі выбарамі ў палату прадстаўнікоў. Выбарчае заканадаўства таксама патрабуе кардынальных зменаў – пра гэта прадстаўнікам Еўрапейскага Саюза і Еўракамісіі гаварылі старшыні АГП – Анатоль Лябедзька, ПКБ – Сяргей Калякін, БСДГ – Станіслаў Шушкевіч.

Абодва візіты не маюць ніякіх юрыдычных наступстваў. Але сам факт сведчыць пра пастаянную цікавасць да сітуацыі на Беларусі і пра магчымыя спробы Еўропы паўплываць на дзеючы рэжым праз Расію, з якою Беларусь мае саюзныя сувязі. Ускосным таму пацвярджэннем з'яўляецца прэс-канферэнцыя дзеючага старшыні АБСЕ Джана Мірчы ў Маскве 8 лютага. «Мы прапітваем ціск і сцвярджаем, што беларускі народ заслугоўвае большай дэмакратыі, а таксама свабодных і справядлівых выбараў», — заявіў Джана Мірча. ■

